# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 35 (1685) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 28 ЖНІЎНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.




Жанчыны — заснавальніцы цяперашняга хору (здымак з 1985г.).

## БЕЛАСТОЦКІ БЕЛАРУСКІ ХОР

Такі хор існуе ў нас ад пачатку існавання БГКТ. Сама я, помню, у пяцідзесятыя гады спявала ў ім пад мастацкім кіраўніцтвам Людмілы Панько. І таксама, помню, у нашым першым хоры была адна моладзь.

Змяняліся дырыжоры хора, харысты. Але так, як і Люба Гаўрылюк, лічу, што беластоцкі хор БГКТ — гэта ўсё той самы хор — хор беларускі. Ні яго рэпертуар, ні заданні не змяніліся. Яшчэ адну асаблівасць падказвае Люба Гаўрылюк, даказваючы бесперарыўнае беларускае спяванне ў горадзе Беластоку, менавіта тое, што спевакі з Беластока прымалі ўдзел у кожным конкурсе беларускай песні, не прапусцілі ніводнага. А конкурсы, паводле дакументаў Любы, адбываюцца ад 1963 года — значыць, у гэтым годзе быў 25 конкурс, аб чым ніхто не ўспомніў. Можа былі якія перарывы ў конкурсах. таму арганізатары маўчалі. Пабачым праз год. Па-мойму, нельга прапускаць такіх юбілеяў — 25 конкурсаў беларускай песні гэта ж багатае дасягненне нашага мастацкага руху!

Цяперашні хор Беластоцкага аддзела БГКТ складаецца з харыстаў у большасці сярэдняга ўзросту, выпрабаваных, вопытных (спевакі царкоўных хораў), з дасканалымі галасамі. Іх 40 з лішнім чалавек — жанчыны і мужчыны. Хоць то заўсёды быў хор аматарскі, то яго мастацкі ўзровень быў заўсёды высокі. З ім працавалі выдатныя дырыжоры. Апошнія гады хор працуе пад кіраўніцтвам нястомнага Сцяпана Копы і спявае з кожным годам усё лепш. Заслуга ў гэтым і саміх харыстаў — вельмі ахвярных, працавітых і дысцыплінаваных. Рэгулярна кожны чацвер адбываюцца рэпетыцыі (2 гадз.), а перад паездкамі, ці выступленнем у горадзе вызначаюцца дадатковыя рэпетыцыі і агульная мабілізацыя калектыву. І хор, і яго кіраўнік мараць і працуюць у тым напрамку, каб хор стаў вялікім, поўным 4-галосым хорам — прадпасылкі ў іх ёсць.

Неяк зайшлі мы ў Беларускі клуб на Варшаўскую 11 на рэпетыцыю. Засталі першых трох харыстак, маладых дзяўчат: Марысю Юрчук, Басю Трахімчук, Дароту Назарко. Яны родам з Каралёвага Мосту, Паўлаў і з-пад Міхалова, цяпер працуюць і жывуць у Беластоку. Праз хвіліну прыйшла Ніна Лук'янюк. Мы спыталіся ў дзяўчат, як яны знайшлі дарогу ў беларускі хор. Адну заахвоціў яе сябра, якому яго сябра сказаў пра хор, другой сяброўка мамы сказала, што ідзе набор у беларускі хор, трэцяя прачытала аб'яву і прыйшла, бо любіць песні, асабліва народныя. А хор спявае многа народных песень — гэта яго асноўны рэпертуар і, як відаць, маладых тэта прыцягвае. Беларуская народная песня мае сваю чароўнасць і можа спаборнічаць у папулярнасці з сучаснай песняй. Зрэшты, народную песню можна выканаць па-рознаму, у чым нас пераконвае калектыў „Дубіны".

Я ўжо не адзін раз сустракалася з фактам, што беларускія калектывы арганізуюцца на „сямейным падрадзе". Вельмі часта ад сям'і і пачынаецца такі калектыў, будуць гэта маці з дачкой і з сястрой, ці сёстры, ці сёстры і браты, ці, што вельмі

(Працяг на стар. 6)

## ЗНАЁМСТВЫ З БЕЛАРУССЮ

### ПЕРШАЕ СПАТКАННЕ

Мы ўсе як адзін: Андрэй Казлоўскі, Лех Канапельскі, Багдан Пастэрнак, Зыгмунт Фліс і я — цэлая наша пяціасабовая група, накіраваная Саюзам польскіх пісьменнікаў у БССР, да апошняй хвіліны былі пераканаы, што едзем у Віцебск на Фестываль польскай песні. Тым больш, што Андрэй і Лех — вядомыя аўтары многіх песенных тэкстаў. Праўду кажучы, перспектыва некалькідзённых выслухоўванняў песень, мяне як чалавека, які знаецца на співе, што кот наплакаў, не вельмі і радавала. Аднак магчымасць першы раз пабываць на Беларусі — айчыне маёй роднай мовы, бацькаўшчыне нашай сумнай гісторыі — лагодзіла ўсе нездавальненні і брала верх над усімі жаданнямі.

У аўторак, 19 ліпеня Мінск прывітаў нас сонечнай раніцай. Чыстае, бязвоблачнае неба прарочыла прыгожае надвор'е. Дзевяць гадзін, а сонца яшчэ зусім нізка, так як у нас на Беласточчыне а сёмай гадзіне. Розніца часу зусім неадназначная з працэсамі прыроды. Гэта ж усяго паўтысячы кіламетраў — бліжэй чым з Беластока ў Шчэцін. Па ўсім відаць, што, згодна з іх часам, летам у адзінаццаць гадзін ночы тут яшчэ відна. Так яно і ёсць.

Калі прымем, што пачынаюць яны працу ў восем гадзін раніцы, дык якое ж доўгае ў іх пасляпоўдне і як мала часу застаецца на сон. Не спаць жа хіба, калі за вокнамі зусім ясна, выказаў свае сумненні, выходзячы з цягніка, Андрэй Казлоўскі.

Мы не паспелі надобра азірнуцца, не гаворачы ўжо каб задумацца, куды ісці, калі пачулася:

— Вы из Польши?

На вакзале чакаў нас Аляксей Гардзіцкі — вядомы публіцыст, працаўнік Саюза пісьменнікаў БССР. Называюць яго тут жартоўна міністрам замежных спраў, таму што займаецца ён сувязямі з заграніцай. Пазнаем адзін аднаго адразу. З Гардзіцкім мы знаёмыя ад дзевяці гадоў, калі пабывалі яны на Беласточчыне з памёршым ужо, вядомым паэтам Аляксеем Пысіным. Шчырае, сардэчнае прывітанне, паціскання рук і першае знаёмства з астатнімі. Гутарка далей ідзе на беларускай мове. Аляксей у скарачэнні знаёміць нас з планам нашай пабыўкі, просячы адначасова прабачэння што не прысутнічае перакладчыца. Яна едзе з Масквы і прыбудзе проста ў гасцініцу недзе праз гадзіну. Сам надзейна глядзіць на мяне. Я ў сваю чаргу спаглядаю на сваіх спадарожнікаў — адзін з Познані, другі з Варшавы, трэці з Кельцаў, чацверты са Слупска. У іх вачах здзіўленне. Перакладаю. Аднак гавораць, што ўсё разумеюць. Калі перакладаць, дык у другі бок. Незразумелыя для іх толькі паасобныя словы. Хапаюць меладычнасць мовы. Лексіка вельмі блізкая. Здзіўленне выклікала што іншае.

— Чаму з Масквы? — пытае мяне Багдан Пастэрнак. Аляксей Гардзіцкі хутка хапае. што рэч ідзе пра перакладчыка.

— А ў нас усё ідзе праз Маскву. Яна ж вязе вам грошы, каб выплаціць дыету. Значыць, так,

(Працяг на стар. 3)

## Жыла-была легенда

### ЯДЛОВЕЦ — НЕ ДРЭВА, КАНЮКІ — НЕ ЛЮДЗІ

На пачатак некалькі слоў паяснення. Прыводзім гэтую прыказку абсалютна не ў абразу жыхароў Канюкоў — вёскі ў Заблудаўскай гміне, якая ляжыць на пагорку на правым беразе Нарвы, у пяці кіламетрах ад Рыбалаў, што па шашы з Бельска-Падляшскага ў Беласток. Аддае яна не сённяшнюю сітуацыю і штодзённае жыццё жыхароў Канюкоў, якія гаспадарныя і працавітыя, дзеці якіх вучацца ў сярэдніх і вышэйшых школах і займаюць у дзяржаўных установах высокія пасады, а мінулае, хаця і не так адлеглае. Канюкі — вёска невялікая. Акружаная лясамі і лугамі, ад вякоў узіраецца ў плынь разлівістай Нарвы. У мінулым займаліся тут лоўляй рыбы, якою рака была вельмі багатая. Нават яшчэ не так даўно. Сам памятаю, як гадоў дванаццаць таму назад, калі праводзіў я там, у сваёй цёткі, летнія канікулы, цягнулі сеці і выцягвалі іх аж белымі ад рыбы. Ляскаталі велізарныя шчупакі, доўгія плоткі, тлустыя акуні, язі. Мянькі лавілася проста рукамі пад кожным кустарнікам ці затопленым бервяном. Зразумела, адбывалася ўсё гэта нелегальна. Лавілі ноччу, расставіўшы варты перад міліцыяй, якая, з увагі на бурлівае жыццё вёскі, асабліва жыхароў мужчынскага полу, пачынаючы ад дзецюкоў і падросткаў, была тут частым госцем. Вось гэтае авантурнае жыццё, якое праходзіла са старэйшых на моладзь, лягло ў аснову нашай прыказкі.

Нарадзілася яно, зразумела, не ў Канюках, але за іх межамі, у тых мясцовасцях, куды даходзілі чуткі аб іх авантурніцтве. А даходзілі, як на ўяўленне вясковае недзе трыццаць гадоў таму назад, далёка. Недзе ў крузе да дваццаці кіламетраў ад спомненай вёскі непаслухмяных дзяцей страшылі канюкамі, а авантурлівых гэтак называлі. Сам памятаю, як у дзяцінстве бабуля гаварыла, калі ішла ў агарод, пакідаючы аднаго мяне на панадворку: „Глядзі, нікуды не выходзь, бо злапае „канюка"!" Для мяне, зразумела, гэтае слова нічога канкрэтнага не значыла і ўяўляла хутчэй нейкую з'яву, або страшэнную звяругу.

Чаму гэтак? Чаму пайшлі такія непрыемныя для жыхароў Канюкоў чуткі і ўяўленні аб гэтай вёсцы? Перш за ўсё ў Канюках страшна пілі, пачынаючы ад старэйшых, а канчаючы на жанчынах і падростках. Пілі нават дэнатурат. Факт, што не ўсе, многа было людзей і гаспадарных. Зрэшты, Канюкі не былі вёскай беднай. Аднак, п'янства кідала кляймо на цэлую вёску. Пры тым часта адбываліся бойкі. У гэтым былі яны „мастакамі". Нядзелямі або прысвяткамі, калі не было нідзе блізка музык, біліся паміж сабою. У святы, інакш кажучы, царкоўныя фэсты, выходзілі дружна, забываючы аб сваіх уласных непаразуменнях, у суседнія вёскі і абавязкова падчас музыкаў пачыналі бойку. У рух ішлі: нажы, ґіры, штахеціны, каменне. Заўсёды, як правіла, былі і ахвяры гэтага пабоішча. Парэзаныя і паламаныя — гэта справа звычайная і ніхто занадта імі не пераймаўся. Здараліся аднак, і то часта, забойствы. Там, дзе паяўляліся хлопцы з Канюкоў, мясцовых ахопліваў перапалох. Асабліва зацятую вайну вялі яны з Плёскамі, што знаходзяцца на другім баку Нарвы.

— Ну, хто гэта бачыў, каб на забаву без нажа ісці, — гаварылі тут.

У 1963 ці 1964 годзе ў „Ніве" быў надрукаваны верш, які дасканала адлюстроўваў адну з боек канюцкіх хлопцаў. Заўсёды, як след іх пабыўкі, заставаліся крывавыя ахвяры. Прытым мелі яны свой гонар. Ніколі не чапалі ў сябе незнаёмых гасцей. Незнаёмы адчуваў сябе свабодна. Вось і гэтыя крывавыя пабоішчы далі падставу таму, што пачалі пра жыхароў Канюкоў гаварыць „Ядловец — не дрэва, канюкі — не людзі". Ну, бо якое ж з ядлоўца дрэва. Паўстала гэтая прыказка, як калька, па аналогіі з іншымі. Прыкладна: „курыца — не птушка, жанчына — не чалавек" або літаратурная: „Што кажух — то не вата, што капуста — то не гарбата".

**Міхась Шаховіч**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

### ІНТЭРВ'Ю З ДЗЕСЯЦІГОДКАМ

**Сэрцайка:** Ну, як табе, Андрэйка, адпачывалася?

**Андрэй:** Ат, мама абяцала, што буду цэлае лета ў лагеры, каб адпачыць перад чацвёртым класам, а быў я толькі два тыдні ў Дубінах, у лагеры з рэлігіі.

**С.:** Ну, і як там было, у тых Дубінах?

**А.:** О, дзяўчаты, дзяўчаты і яшчэ раз дзяўчаты... Старэйшы мой брат увесь час іграў у шахматы, а я падрываў „кадру"!

**С.:** А што гэта за „кадра" была? Пэўна, найлепшыя дзяўчаты?

**А.:** Не, гэта былі шаснаццацігадовыя спартсменкі.

**С.:** І што, цяпер сумна табе ў горадзе?

**А.:** Няма калі сумаваць. Учора прастаяў дзве з паловай гадзіны ў чарзе па вітамінізаванае малачко для малодшага брата, а сёння вось прыслалі ў аптэку, бо ў яго ў роце выскачылі нейкія пляснякі. Старэйшы брат паехаў на вёску да бабулі, дык трэба маме дапамагчы, закупы ўсе зрабіць.

**С.:** Цяжкое тваё жыццё і разумею твой боль: душа да дзяўчат рвецца, а тут трэба братам малым займацца.

**А.:** Дзяўчат многа, нікуды яны не дзенуцца. Адчапіцца ад іх нельга. Мама і так наракае, што я ўвесь час закаханы!

**С.:** А праўда, што бываеш закаханы?

**А.:** О, першы раз гэта здарылася яшчэ ў „зэроўцы". Нават яшчэ крыху раней. Мне было тады пяць гадоў. І была такая Кася. Але ж палабалася яна мне!

**С.:** Андрэйка, а як гэта было ў цябе з тым закаханнем? Бо мне давялося нешта такое перажыць у дзесяць гадоў. Штосьці ёкнула ў маім сэрцы, калі адчула другое побач.

**А.:** У мяне нічога падобнага не здарылася. Проста пакахаў дзяўчыну і ўсё. Думаю, што дзяўчаты ў жыцці мужчыны — справа найважнейшая.

**С.:** А ці ёсць у цябе яшчэ іншыя зацікаўленні, апрача дзяўчат?

**А.:** Вельмі люблю спяваць беларускія песні. Збіраю маркі, але і так да дзяўчат цягне.

**С.:** Андрэйка, мне казалі, што ты яшчэ любіш займацца спортам, а ў школе наогул з'яўляешся выдатным вучнем?!

**А.:** Вучоба таксама дае мне вялікае задавальненне. Маю нават адзнаку „Узорны вучань". Такіх у нашым класе нямнога.

**С.:** А-а-а, дык цяпер я ўжо ведаю, чаму гэтыя дзеўкі так ліпнуць да цябе. Усё гэта з-за тваіх добрых ацэнак у школе. Пэўна, кожная хоча быць падобнай на цябе, сябраваць з табою?!

**А.:** О не! Ацэнкі тут абсалютна не прычым. Найважнейшае ва ўсім гэтым — выгляд чалавека, яго прыгажосць і абаяльнасць.

**Гутарку вяло Сэрцайка**

## З ЛІТОЎСКАЙ КУХНІ

### ЖМУДСКАЯ САЛАТА З ГАРОДНІНЫ

На 3/4 шклянкі фасолі трэба ўзяць 1 бурак, 2 бульбіны, 1 кіслы або свежы агурок, 1-2 памідоры, 10 дэкаў сырой капусты, 1 невялікую рэпу (ці бручку), 1 моркву, 1 цыбулю, пучок зялёнай цыбулькі, зеляніну пятрушкі, укропу, 1 шклянку смятаны ці маянезу, 1 лыжку кмену, соль па смаку.

Фасолю памыць, намачыць на дзень раней у кіпячонай халоднай вадзе і зварыць на другі дзень у той самай вадзе, у якой яна мачылася. Бульбу і бурак памыць, зварыць у лупінах і нарэзаць дробнай костачкай. Нарэзаць ачабраны агурок і памідоры. Капусту дробна пасячы, крыху пасаліць і патаўчы, пакуль не паявіцца сок. Памытую, ачабраную, спаласнутую моркву ці рэпу сцерці на бурачанай тарцы. Дробна нарэзаць цыбулю. Зеляніну дробна пасячы. Усю гародніну перамяшаць у вялікай місцы, пасаліць, дадаць кмену. Пасля ўсё заліць смятанай ці маянезам.

### КАТЛЕТЫ З КАПУСТАЙ

На 30 дэкаў тлустай свініны трэба ўзяць 1 галоўку капусты, 1 вялікую цыбуліну, 2 яйкі, 1 шклянку цертай булкі, тлушч, перац, соль.

Капусту памыць, абварыць у пасоленай вадзе, выняць і добра адцадзіць яе. Мяса, капусту і цыбулю, падсмажаную на тлушчы, прапусціць праз мясарубку, у масу дадаць жаўткі, палавіну падрыхтаванай цертай булкі, соль і перац па смаку ды збітыя на пену бялкі. Усё добра перамяшаць. З масы рабіць катлеты, мачаць іх у цертую булку і абсмажваць з абодвух бакоў на разагрэтым тлушчы. Катлеты палажыць у місачку і патрымаць іх яшчэ мінут дзесяць у цяпле.

### ВІШНЁВЫ КВАС

На 5 літраў вады ўзяць 2 дэкі хмелю, 2 літры вішань, 1 кг цукру, 5-10 дэкаў дражджэй.

Хмель варыць у вадзе мінут 15, а тады адцадзіць яго. З вішань выціснуць сок. Даліць яго ў адвар з хмелю. Тады дадаць цукар, расцертыя з часткай цукру дрожджы і так патрымаць квас на працягу 12—24 гадзін. Пасля гэтага разліць яго ў бутэлькі і шчыльна зачыніць. Праз 2-3 дні квас можна піць.

Напітак гэты атрымліваецца даволі моцны, а смак яго салодка-кіслы.

**Гаспадыня**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне, ужо даўно не сніліся мне такія сны, як тады, калі быў з сяброўкай на адпачынку ў Аўгустове. А снілася мне так. Быццам вось быў прыгожы сонечны дзень каля палудня. Неба сіняе без хмар, горача. Я хачу ўвайсці ў агарод, дзе расце розная гародніна, але брама зачынена. Але вось падышоў гаспадар і адчыніў браму. Я ўваходжу ў сярэдзіну, а тут дзікі, запушчаны агарод, трава вялікая да каленяў. Гаспадар паказвае на прыгожыя дрэвы, а асабліва на белую бярозу з белай карою, з вялікай і буйнай кронаю, як парасон. Я гляджу ў тым напрамку і бачу вялізную сасну. Іду я да гэтай сасны і бачу, што вакол яе стаяць акварыумы з рыбай вялікаю. Мне хочацца ўбачыць крону сасны, задзіраю галаву, але крону не ўбачыў. Ствол дрэва вядзе высока-высока ў неба. На гэтым я прачнуўся.

А ў другім сне мне прыснілася, што я хацеў забіць свайго дзядзечку. Ён быў старэнькі, нядобры і хціві. У гэтым сне ён быццам ляжаў у вялікім ложку, накрыты чырвоным плюшам, а над ложкам быццам бы быў надбудаваны балкон з чырвонай цэглы. Я гэты балкон разбіраю і цэглу складаю на беднага дзядзечку, яна ссоўваецца з яго галавы і галава тады паказваецца з-пад цэглы. Вялікія вочы дзядзечкі глядзелі на мяне з жахам.

**А. Г.**

А. Г.! Твой першы сон напэўна абазначае нейкую прыемнасць, задавальненне, хаця з той дзяўчынай, відаць, у цябе нічога не выйдзе, так як не дасягнула тваё вока той кроны сасны, якая была для цябе задалёка ў небе.

Што датычыць другога сну, дык магу цябе супакоіць. Людзі, якім ў сне здаецца, што яны з'яўляюцца забойцамі, у жыцці, на шчасце, такімі не бываюць. Дзядзька, аднак, захварэе.

**Астрон**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Група дзяцей з Новага Двара, што на Гродзеншчыне, разам з групай нашых дзяцей і сваімі апекунамі. На цэнтральным плане — стэнд з карцінамі — найлепшымі працамі ў конкурсе малюнкаў.




Два тыдні ў ліпені адпачывалі ў Дубічах-Царкоўных дзеці з Гродзеншчыны, са школы ў Новым Двары Свіслацкага раёна. У рамках прыгранічнага абмену паміж Гайнаўкай і Свіслаччу дзеці з Корніна, Грабаўца і Дубіч-Царкоўных паехалі ў Новы Двор, а з Новага Двара прыехалі дзеці ў Дубічы.

Госці з Беларусі — 18 дзяўчатак і хлопчыкаў розных класаў пад апекай дзвюх сваіх настаўніц знаёміліся з Польшчай, з Беласточчынай. Арганізатары абмену пастараліся, каб пабыўка ў Беласточчыне дала дзецям як найбольш уражанняў. А настаўнікі з мясцовай школы зрабілі ўсё, каб госці адчувалі сябе тут добра і спакойна.

Штодзённая праграма была так перапоўнена, што дзеці, хоць поўныя ахвоты пабачыць усё, што толькі можна, марылі аб спакайнейшай хвіліне.

Экскурсія ў Белавежу. Пабыўка ў музеі прыроды, шпацыр па пушчы, па запаведніку. Вялікае ўражанне зрабілі на дзецях старыя дубы, якія памятаюць яшчэ паляванні ў пушчы не аднаго караля і цара.

Сяброўская сустрэча з дзецьмі са Старыны ў Дубічах ля вогнішча — супольныя гульні, песні, забавы. А затым рэвізіт у Старыну. Усё гэта незабыўнае і цудоўнае.

Былі таксама экскурсіі ў Бельск і ў Беласток, дзе таксама агледзалі горад і музеі. У Гайнаўку дзеці былі запрошаны на мітынг з нагоды гадавіны вызвалення горада ад фашыстаў. Разам з дарослымі жыхарамі і гайнаўскімі гарцэрамі навадворцы складалі вянкі і кветкі на магілах савецкіх салдат, аддаўшых жыццё за вызваленне Гайнаўкі.

Багатую праграму дзецям запрапанаваў дубіцкі гмінны дом культуры. Кожны вольны ад выездаў дзень дзеці праводзілі там, удзельнічаючы ў шматлікіх і розных конкурсах, спартыўных спаборніцтвах, на дыскатэках.

Сонечныя дні дзеці праводзілі таксама на пляжы, на пясчаным беразе новага воднага заліва, дзе створана гмінная зона адпачынку. Там можна было пазагараць, пакупацца і нават пакатацца на водным веласіпедзе.

Два тыдні праляцелі неўпрыкметку. Выязджаючы дадому, дзеці забіралі з сабою цеплыню сяброўскіх сустрэч, радасць ад пазнання новых людзей, хоць невялічкага, але кавалачка суседняй краіны і шматшмат новых развучаных песень, і польскіх, і беларускіх, і рускіх, якія спяваліся тут разам з новымі сябрамі. Кожны павёз дадому шмат адрасоў новых сяброў, з якімі будуць перапісвацца аж да наступных канікул. Дык да новай сустрэчы на Беласточкай зямлі!

Яніна Чэрнякевіч
Фота аўтара



Разам з гродзенцамі адпачывала невялічкая групка мясцовых дзяцей. Сярод іх — Магда Лэнэыцкая і Аня Карпюк з Бельска, Кася Млодзян з Дубіч-Царкоўных і Эва Вілюк з Вілюкоў.

Алена Мімрык
Дзіяна Энціна




Працяг (6).

Рынак Менгале пачынаўся з вялікай пыльнай плошчы. Шум і мітусня людзей спачатку здзівілі Волю. Потым яна з цікаўнасцю пачала разглядаць стракаты натоўп. Жанчыны ў яркіх доўгіх спадніцах з высокімі турбанамі, паважаныя мусульмане — мужчыны ў белым адзенні бубу, маладыя людзі, апранутыя па-еўрапейску — у абцягнутыя штаны і празрыстыя кашулі светлых тонаў. Усюды бегаюць і гуляюць дзеці, кудахтаюць куры, якія сядзяць у плеценых з бамбуку кашах. Вось гэта рынак!

Пастунова вочы дзяўчынкі пачалі спыняцца на рэчах, што асабліва зацікавілі яе.

— Ой, татачка, глядзі, якія прыгожыя сумкі, цыноўкі!

— Яны зроблены з пальмавага лісця, дакладней — з валокнаў ліста пальмы рафіі.

— Мне падабаюцца гэтыя сумка і палатно з рафіі. А вунь на маленькай лавачцы сядзіць жанчына і штосьці памешвае ў чане драўлянай лыжкай. Тамба-Тамба, што яна робіць? — спыталася Воля.

— Смажыць арахісавыя арэхі.

Пах арахісу спакусіў іх. Захацелася пакаштаваць. Яны падышлі да жанчыны. Кангалезка адмерала ім шклянкай румяныя арэхі і высыпала ў папяровы пакет.

Потым яны трапілі да прадаўцоў садавіны. Тут былі горы ананасаў, бананаў, зялёных у цёмных калючках карасоляў, жоўтай і духмянай папаі, памплімусаў.

Воля паказала на кучкі нейкіх чырвоных пладоў.

Тамба-Тамба растлумачыў, што гэта плады пальмаў, з якіх робяць алей.

— А вунь чырвоныя прадаўгаватыя плады з зялёнымі хвосцікамі. Што гэта?

— Піман.

— З яго таксама робяць алей?

— Не, гэта горкі перац. Яго змешваюць з сокам і спецыяльна прыгатаванай пастай. Выходзіць смачная прыправа — пелепеле. Яе прадаюць у маленькіх слоічках. Возьмеш у рот малюсенькі кавалачак гэтай прыправы, цэлую гадзіну будзе пячы ў горле. Затое карысна для здароўя. Калі чалавек паесць пелепеле, ніякая хвароба яму не страшная.

— Зірніце, ну і бульба! — усклікнула Воля.

— Гэта — бататы, салодкая афрыканская бульба.

— Хадзем у гарадок тканін, — прапанаваў Тамба-Тамба. —

(Працяг на стар. 10)

